

Магілеўскі

# ВЫБАР

№ 2 (28)
Ліпень
2014 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна


## КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫ ЎЗРОВЕНЬ

Карупцыя – выкарыстанне службовай асобай сваіх уладных паўнамоцтваў і давераных яму праў, а таксама звязаных з гэтым афіцыйным статусам аўтарытэту, магчымасцей, сувязяў у мэтах асабістай выгады, супярэчных заканадаўству і маральным устаноўкам. Карупцыяй называюць таксама подкуп службоўцаў і іх прадажнасць.

Карупцыя мае даўнія карані, але раней на Беларусі яна не была такой масавай, як зараз. Разрастанне карупцыі да буйных памераў звязана з прыходам да ўлады аўтарытарнага кіраўніка, амаральных дзялкоў,нават былых крымінальнікаў. Добра засвоеныя злачынныя метады тут жа ўкараняюцца ў дзяржаўную сістэму, пераносяцца на грамадства. І хаця ў Беларусі прыняты Закон “Аб барацьбе з карупцыяй” (ад 20 ліпеня 2006 г.), які прызваны абараняць правы і свабоды грамадзян, эфектыўнасць яго дзеяння зведзена да своеасаблівага фільтра зарваўшыхся чынуш, якія вельмі ўжо хуткімі тэмпамі фармуюць асабісты дабрабыт.

Карупцыя наогул з’яўляецца сістэмным прадуктам грамадства, вынікам яго недастатковай прынцыповасці, а ў Беларусі і прадуктам дзяржаўнай палітыкі. Напрыклад: куды глядзіць дзяржава (і грамадскасць), калі кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў і спецыялісты, звязаныя з закупкамі сыравіны і матэрыялаў у прыватных фірм, маюць неблагія даходы ад самога факту закупак. І гэта не проста зайздрасць абывацеля.Такім чынам на дзяржаўныя прадпрыемствы паступае не заўсёды якасная прадукцыя. І пра якую канкурэнтаздольнасць большасці магілёўскіх вытворцаў можна ў гэтым выпадку весці гаворку? Бо вынікам гэтага своеасаблівага прыватна-дзяржаўнага партнёрства з’яўляюцца загружаныя склады дарагой і не зусім якаснай гатовай прадукцыяй. Пры гэтым невялікае кола мэнэджараў вядзе даволі шыкоўнае жыццё, а радавыя працаўнікі тыднямі чакаюць жабрацкага заробку. Дарэчы, электронныя таргі, абавязковыя для усіх дзяржаўных прадпрыемстваў, маглі б прынцыпова выправіць становішча. Найлепшы ж выхад з гэтага няпростага становішча – прыватызацыя дзяржмаёмасці.

Ці можна спадзявацца ў навядзенні парадку на эканамічнай прасторы вобласці на сілавыя структуры – органы МУС, КДБ, КДК, следчы камітэт? Так, але ж, напрыклад, справа “адкатаў” на дзяржпрадпрыемствах зайшла так далёка, што большасць “саплівых” маркетолагаў нават і не ўтойваюць свае “левыя” крыніцы ўзбагачэння. Ды і да саміх “барацьбітоў” ёсць пытанні: арыштаваны па артыкулу “карупцыя” “перавертні ў пагонах” з Клімавічскага РАУС, шклоўскі начальнік ДФР КДК, магілёўскі суддзя, якія самі павінны былі стаяць на ахове правапарадку.

Ёсць пытанні і да прыватнага бізнэсу, але ж ён працуе ў квазі-

(Заканчэнне на с.4-5)

## ПАДЕНИЕ ЭКСПОРТА И СОКРАЩЕНИЕ КОЛЛЕКТИВА

*Таково сегодня положение на Климовичском ликеро-водочном заводе*




Не поверите, но заниматься молоком у нас значительно выгоднее, чем производить водку. Такой вывод можно сделать при сравнении результатов работы… Климовичского ЛВЗ и холдинга «Могилёвская молочная компания «Бабушкина крынка». Как информирует mogilevnews.by, «Бабушкина крынка» более чем вдвое увеличила чистую прибыль ( до 35,1 миллиарда рублей) в первом квартале текущего года по сравнению с прошлогодним периодом. А вот у ЛВЗ прибыль оказалась со знаком минус.

Ухудшение финансовых показателей ведущего предприятия Климовичского района вряд ли можно назвать случайным явлением. Все последние годы завод постоянно трясёт на экономических ухабах, а его деятельность сопровождается чередой скандальных историй. К тому же ЛВЗ никак



(Окончание на с.2)


ществовать отдельно от остальной экономики Беларуси, нарастающие проблемы которой так или иначе сказываются на всех субъектах хозяйствования страны.

Если же говорить о конкретных фактах, то сошлёмся на статью Ярослава Романчука, известного экономического эксперта. В подготовленном им обзоре “Маяки-обманщики” («Белгазета» — 14.07.2014) приводится обширный перечень претендентов на быструю приватизацию или ликвидацию по итогам 1-го квартала этого года. Так вот, в обзоре приводятся данные, что чистая прибыль Климовичского ЛВЗ за 1-й квартал 2014 года составила минус 15874 млн. руб. Это, конечно, не идёт ни в какое сравнение с достижениями «Бабушкиной крынки».

Вообще аналогичные негативные тенденции присущи сегодня всему отечественному рынку ликеро-водочных изделий. Наблюдается заметное падение продаж и рост цен в связи с увеличением акцизов. Как следствие, хроническая затоваренность на складах, что не стало исключением и для Климовичского ЛВЗ. Нам известно, что весной накопленные запасы стремительно распродавались, но связано это было не с улучшением положения завода, а с предстоящим приездом в Климовичи Александра Лукашенко. Надо было показать, что продукция ЛВЗ пользуется спросом, пусть даже при этом предприятие несёт убытки.

Но, похоже, Лукашенко не оценил предпринятые руководством завода шаги и во время апрельского визита в Климовичи прилюдно объявил о решении поменять гендиректора. Уже 2 мая он дал согласие на назначение генеральным директором ОАО «Климовичский ликеро-водочный завод» Олега Буянова. Так в жизнедеятельности ЛВЗ начался новый отсчёт, кардинальным образом повлиявший как на его настоящее, так и на будущее. И хотя президентский назначенец проработал на данный момент всего около трёх месяцев, этого вполне достаточно, чтобы сделать определённые выводы.

Очевидно, что ЛВЗ находится на пороге серьёзной реорганизации. Можно ожидать, что для снижения убытков головное предприятие избавится от спиртзаводов, оставив лишь Костюковичский спиртзавод. Также многое указывает на возможное



перепрофилирование предприятия, то есть пересмотр ассортимента выпускаемой продукции. В частности, речь идёт о прекращении выпуска вина. Кстати, в этом году уже существенно упало производство плодового вина, а также коньяка (более чем наполовину). Впрочем, это касается и других видов продукции. За первое полугодие по сравнению с аналогичным периодом прошлого года Климовичский ЛВЗ сократил выпуск водки и ликероводочных изделий на 34%. Одновременно были снижены поставки на экспорт, что ощутимо сказалось на прибыли предприятия. И как закономерный итог — сокращение численности работающих. По имеющимся в нашем распоряжении данным, сократили около 100 человек.

В каком состоянии будет находиться Климовичский ЛВЗ к концу года, трудно не только прогнозировать, но даже предполагать.

*Александр ВЛАД.*

# У Беларусі ствараецца клан латыфундыстаў

***14** ліпеня 2014 года А.Лукашэнка, прымаючы з дакладам прэм’ер-міністра, кіраўніка працоўнай групы па рэфармаванню сельскай гаспадаркі краіны, заявіў, што неэфектыўныя сельгаспрадпрыемствы будуць прыватызаваны ў выпадку, калі яны на працягу года не выйдуць на бязстратную працу.*

***А 17 ліпеня ён падпісаў аж 4 указы, падрыхтаваныя працоўнай групай для рашэння праблемных пытанняў у аграпрамысловым комплексе.***

***Адзін з іх, Указ № 349 “Аб рэарганізацыі калгасаў (сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў)” вызначае, што калгасы (СВК) да 31 снежня 2016 года належаць да пераўтварэння ў гаспадарчыя таварыствы або камунальныя прадпрыемствы. Пры гэтым, пры пераўтварэнні калгасаў у гаспадарчыя таварыствы, долі ў статутных фондах гэтага таварыства размяркоўваюцца паміж фізічнымі асобамі – членамі пера-ўтвараемага калгаса і адміністрацыйна - тэрытарыяльнай адзінкай, на тэрыторыі якой ён размешчаны.***

Кто такой латифундист?

Кто такой латифундист?

Латифундист — крупный землевладелец, хозяин латифундии.

Что такое латифундия?

*В Древнем Риме латифундиями (лат. latus «просторный» + fundus «ферма, недвижимость») назывались обширные поместья, специализирующиеся на экспортных областях сельского хозяйства: выращивании зерновых, производстве оливкового масла и виноделии.*

*Древнеримские латифундии были наиболее близки к современному индустриальному сельскому хозяйству, их экономика зависела от рабского труда.*

Источник — Wikipedia.

***Такім чынам, пад выглядам “дабрачыннага” рашэння, на працягу двух з паловай год будуць ліквідаваны апошнія 347 яшчэ існуючых у Беларусі калгасаў. Напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў нашай краіне дзейнічала больш 2,5 тыс. сельгаспрадпрыемстваў, з іх - каля 1,5 тыс. калгасаў.***

***Па словах міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Л.Зайца, Указ прэзідэнта па пераўтварэнню калгасаў спрасціць працэдуру продажу***



***сельгаспрадпрыемстваў для прыцягнення інвестыцый. Дакумент створыць прававую нарматыўную базу для арганізацыі калгасамі новых суб'ектаў гаспадарання з мэтай "вывыду іх на больш высокі ўзровень гаспадарання". Прыняццё такога дакумента, па словах міністра, вызвана яшчэ і тым, што на сённяшні дзень статуты калгасаў страцілі сваю значымасць і не адпавядаюць сучасным заканадаўчым нормам. Яны таксама ўваходзяць у супярэчнасць з Падатковым кодэксам.***

На першы погляд, чытаючы падобныя рэляцыі, можа падасца, што беларуская дзяржава, беларускае чынавенства ўсяляк імкнуцца праявіць вялікі клопат аб сялянстве, аказаць яму неабходную падтрымку.

Але ж насамрэч гэта не так.

Аднaчасовым прыняццём ажно 4-х Указаў па сельскай гападарцы (чаго ў гісторыі Беларусі яшчэ не назіралася), кіраўніцтва краіны практычна ўзаконіла рабаўніцтва сялянства, якое працягваецца ў нашай краіне пад выглядам правядзення рэформаў ужо больш 10 апошніх год.

Больш дзесяцігоддзя ў нашай краіне пад выглядам рэфармавання сельскай гаспадаркі інтэнсіўна ідуць працэсы зліцця двух-трох суседніх гаспадарак у адну і перавод новастворaных гаспадарак у гаспадаркі з новай формай ўласнасці. Былыя калгасы, саўгасы ператвараюцца ў ААТ (Адкрытыя акцыянерныя таварыствы), ЗАТ (Закрытыя акцыянерныя таварыствы), сельскагаспадарчыя кааператывы, якія надалей перадаюцца ў распараджэнне або ўласнасць новым гаспадарам.

Праз прыняццё новых заканадаўчых актаў, што не прадугледжваюць роўныя правы для грамадзян Беларусі па прыватнай ўласнасці на зямлю, як і ў гады існавання савецкай ўлады, беларуская дзяржава імкліва выбівае з селяніна апошнія рэшткі пачуцця ўласніка, гаспадара свайго жыцця.

Як і ў далекія 1920-1930-я гады ў часы калектывізацыі, калі сялянства сілай пазбаўлялася прыватнай уласнасці на зямлю, на сродкі вытворчасці і заганялася ў калгасы, беларускія ўлады зноўку прымаюць рашэнні па рэфармаванню сельгаспрадпрыемстваў нават не цікавячыся меркаваннямі сённяшніх калгаснікаў і бессаромна пазбаўляюць сялян іх калектыўнай уласнасці.

Як гэта ўсё адбываецца? Ды вельмі проста…

***Разгледзім гэты працэс на прыкладзе былога калгаса імя М.В.Фрунзэ, Шклоўскага раёна, землі якога размяшчаюцца ўздоўж аўтадарогі С.Пецярбург – Адэса.***

***Гаспадарка была створана ў далёкім 1929 годзе і заўсёды па выніках дзейнасці з'яўлялася адной з найлепшых у раёне. У 2002 годзе да яе быў далучаны суседні калгас "Запаветы Леніна". У 2003 годзе калгас быў пераўтвораны ў ЗАТ "Любіцкае".***

***Агульная плошча гаспадаркі склала 5602 га, з іх 5243 га. – сельскагаспадарчыя ўгоддзі, у тым ліку ворыва – 4232 га. Агульная колькасць працуючых у гаспадарцы - 224 чалавекі.***

***У 2005 годзе пад выглядам "дабрачыннага паступка" - быццам бы з мэтай выратавання былога калгаса і дапамогі былым калгаснікам, акцыі сельскагаспадарчага прадпрыемства ЗАТ "Любіцкае" набыло ААТ "Амкадор" г.Мінск – буйнейшае на тэрыторыі СНД прадпрыемства па вытворчасці дарожнай і камунальнай тэхнікі. З гэтае пары сельскаспрадпрыемства стала называцца ЗАТ "Амкадор – Шклоў".***

Такім чынам, у выніку, калгаснікаў былога к-са імя Фрунзэ пазбавілі калектыўнай уласнасці на маёмасць – тэхніку, пагалоўе буйной рагатай жывёлы, свіней, вытворчых памяшканняў і т.д. Зроблена ўсё гэта было такім жа чынам (хоць гэта зараз выглядае і прыгажэй), як калісці гэта рабілі з іх дзядамі і прадзедамі ў далёкім 1929 г., заганяючы іх у калгас і пазбаўляючы прыватнай уласнасці.

***Канчатковая ідэя ўсіх гэтых пераўтварэнняў, атрымаўшая па задумцы камбінатараў лагічнае завяршэнне, стала зразумелая толькі амаль праз восем год – 25 сакавіка 2013 года, калі на Беларускай валютна-фондавай біржы адбылася здзелка па продажы акцый ААТ "Амкадор". У выніку ўладальнікам 562 тысяч 457 акцый "Амкадора", што складае 53,64% статутнага фонду, стала наваполацкая кампанія ТАА "Інтэрсервіс", гаспадаром якой з'яўляецца Мікалай Варабей, прыбліжаны да А.Лукашэнкі. Такім чынам, М.Варабей зрабіўся "латыфундыстам" - ўладальнікам вялікага сельскагаспадарчага прадпрыемства з тысячамі гектараў зямлі.***

І гэта не адзіная здзелка па прыватызацыі сельскагаспрадпрыемстваў у Беларусі. Прыхаваныя працэсы "прыхватызацыі" маёмасці ў нашай краіне ідуць поўным ходам, дзе нярэдка сапраўднага гаспадара вылічыць вельмі складана.

Яшчэ больш нахабным чынам абышліся з калгасам "1 Мая" Шклоўскага раёна , які тры гады таму назад быў далучаны да ААТ "Александрыйскае". На працягу двух дзён пасля ліквідацыі калгаса, у Александрыю была вывезена ўся жывела, тэхніка, абсталяванне, а на працягу двух месяцаў зліквідавана, зцёрта з твару зямлі вытворчая база былога калгаса. А калгаснікі з гаспадароў ператварыліся ў нікому непатрэбных безпрацоўных.

Падобным чынам беларускае чынавенства распарадзілася і з іншымі гаспадаркамі, як, напрыклад, быў ліквідаваны калгас імя Леніна, Бялыніцкага раёна – у свой час адна з найлепшых гаспадарак краіны.

Стан "жабрака", а не гаспадара на сваёй зямлі замацоўваецца беларускім чынавенствамі сярод сялянства яшчэ і праз мытарствы фермераў, праз навязванне думкі, што зямля беларускаму сялянству, як прыватная ўласнасць, нікому не патрэбна.

Такім чынам, рэпрэсуючы базавы ўласніцкі інстынкт беларускага сялянства, вышэйшае чынавенства краіны імкнецца дасягнуць адной мэты – здзейсніць у бліжэйшай перспектыве міжкланавую прыватызацыю зямлі.

*Рыгор КАСТУСЁЎ,*
намеснік старшыні Партыі "БНФ".

# КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫ ЎЗРОВЕНЬ

*( Заканчэнне. Пачатак на с.1 )*

рынкавых умовах і не можа быць у дадзеным выпадку цывілізаваным. Таму ўсе спробы ўлад падвысіць эфектыўнасць эканомікі будуць разбівацца аб камяні своеасаблівых адносін “прыватнае-дзяржаўнае”.

Яшчэ больш “адкатная” хвароба распаўсюджана ў бюджэтнай сферы. Закупка абсталявання ў адукацыйныя і медыцынскія ўстановы (асабліва за валюту), іх капітальны рамонт – гэта бязмерныя магчымасці для чыноўнікаў, якія рэгулююць таварныя і фінансавыя патокі для забяспячэння іх функцыявання. Ды ці мала другіх магчымасцей у нячыстых на руку чыноўнікаў – ЖКГ, арэндныя адносіны, сельская гаспадарка. На пытанне, ці дазваляюць зараз супрацоўнікам сілавых ведамстваў правяраць начны развоз малочных і мясных прадуктаў па магазінах з адпаведных перапрацоўчых прадпрыемстваў, адказныя асобы разводзяць рукамі.

Вось таму і ўражанне, што ніхто зараз са злодзеяў-карупцыянераў нікога не баіцца і не зважае на маральныя нормы і грамадскую думку. Дзяржаўныя СМІ стараюцца абыходзіць шматлікія факты, суды над карупцыянерамі праходзяць у закрытым рэжыме. Агалосцы прыдаюцца толькі крымінальныя справы, якія выгадныя ўладзе. Нават кіраўнік дзяржавы, які раз пораз аб’яўляе барацьбу карупцыі, бяссільны ў гэтай справе барацьбы, не разумеючы, што самы надзейны заслон злодзеям можа паставіць толькі дэмакратычны дзяржаўны лад.

Як жа да карупцыйных праблем ставіцца мясцовая ўлада? У справаздачы Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта за 2012, 2013 гады слова “карупцыя” не згадана ні разу. Такія ж адносіны да карупцыйных праблем як у Магілёўскім гарвыканкаме, так і ў шклоўскіх вертыкальшчыкаў. Адзін раз пра карупцыю згадалі ў справаздачы прэзідыума абласнога Савета дэпутатаў – відаць і ў аблсавеце не вельмі шануюць гэту тэму.

Вось чаму ў тым ліку грамадскасць павінна больш крытычна адносіцца да тэмы карупцыі і шукаць прычыны замоўчвання праблемы выканаўчай уладай.

Але можа з карупцыяй у Магілёўскай вобласці даўно пакончана ці ёсць дадатныя зрухі ў праваахоўных органаў? Не, гэта не так. Напрыклад, у 2012 годзе ў Магілёўскай вобласці выяўлена і пастаўлена на ўлік 209 злачынстваў карупцыйнага напрамку, не палепшылася становішча ў 2013 годзе – колькасць карупцыйных злачынстваў павялічалася на 30,5% у параўнанні з папярэднім годам і склала на 1,2% больш сярэдняга паказчыка па Беларусі. Ды і толькі за 5 месяцаў 2014 года выяўлена 101 карупцыйнае злачынства. Пры гэтым, абласная пракуратура канстатуе, што за апошнія 5 гадоў іх колькасць не памяншаецца. Яшчэ на слыху громкія затрыманні службовых асоб у Магілёўскай вобласці: генеральнага дырэктара “Крычаўцементашыферу”, галоўнага ўрача Касцюковіцкай бальніцы, дырэктара “Магілёўдрэва”, заведзена крымінальная справа на кіраўніка “Строммашыны”.

ГРАЖДАНЕ,
НЕ ДАВАЙТЕ ВЗЯТОК!
ОБРАЩАЙТЕСЬ В ТРОЙКУ С ЖАЛОБАМИ НА ВЫМОГАТЕЛЕЙ ВЗЯТКИ; ВАША ЖАЛОБА БУДЕТ РАССМОТРЕНА НЕМЕДЛЕННО.
СУРОВАЯ КАРА ЖДЕТ ВЗЯТОЧНИКА.

Але чаму мясцовая “вертыкаль” так індыферэнтна адносіцца да гэтай тэмы? Справа ў тым, што болей за трацiну (35%) ад агульнай колькасці карупцыйных злачынстваў рэгіструецца ў сістэме органаў мясцовай улады і падначаленых ім структурных падраздзяленнях. А найбольшую ўдзельную вагу займаюць крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі (34%), дача хабару (33%), атрыманне хабару (11%), злоўжыванне ўладай (9%). Згадзіцеся, звычайнаму грамадзяніну ў шэрагах карупцыянераў месца проста няма. Пры тым, як даводзяць чыноўнікі, найбольшая колькасць карупцыйных злачынстваў зарэгістравана ва ўстановах аховы здароўя і прамысловасці, а найменшае – у гандлі і адукацыі. Па другіх жа крыніцах якраз ва ўстановах адукацыі фіксуецца найбольшая колькасць карупцыйных злачынстваў, а ў гандлі іх значна больш, чым у ахове здароўя і на транспарце. Па ўсяму выходзіць, што якраз сацыяльны і гаспадарчы механізмы выступаюць генератарамі карупцыі, ў той жа час з’яўляючыся выніковымі інстанцыямі ў рэгіянальнай эканамічнай сістэме.

І зноў жа, найбольш карумпаванымі сферамі ў Рэспубліцы Беларусь з’яўляюцца будаўніцтва, размеркаванне зямельных надзелаў, хімічная прамысловасць і ўжо памянёныя ўстановы адукацыі і аховы здароў’я. Чамусьці ў Магілёўскай вобласці на першыя тры складнікі рэйтынгу не звяртаецца ўвагі. Можа на гэта ёсць свае прычыны, дык на іх трэба акцэнтаваць увагу грамадства, каб не было крыватолкаў. Бо і так хапае розных здагадак па крымінальных дзеяннях мясцовых чыноўнікаў. Напрыклад, чамусці не расле-дуюцца громкія справы нават у Шклоўскім раёне – справа былога начальніка райсельгасхарчу па крадзяжы 4,2 млн. еўра, “калійная справа”, чарга правапарушэнняў у жылкамунгасе, па якіх былі заведзены крымінальныя справы, але злаўмыснікі да гэтага часу не толькі на свабодзе, але і займаюць даволі “хлебныя” месцы.

Спусцімся на больш ніжэйшы ўзровень – грамадскасць вельмі

цікавіць факт знішчэння ўстановы культуры ў вёсцы Бушлякі Шклоўскага раёну - чаму быў разбураны і куды знік дабротны будынак мясцовага сельскага клуба. Без карупцыі, мабыць, не абышлося, бо, каб ліквідаваць адзінае месца ў вёсцы для правядзення дасуга насельніцтва і масавых мерапрыемстваў ўладных структур, трэба мець вельмі дужыя падвязкі ў мясцовай вертыкалі. І не толькі на мясцовым узроўні. Бо як расцаніць той факт, што сёння ў Шклоўскім райвыканкаме па-ранейшаму працуюць тры службовыя асобы, якія здзейснілі крымінальныя злачынствы карупцыйнага характару - садзейнічанне крадзяжу сродкаў жыллёвага кааператыву і незаконная пастаноўка сваякоў на ўлік на жыллё. Выратаваць гэтых злодзеяў можа толькі вышэйшая ўлада Беларусі, магчыма, нават, трэба ўмяшальніцтва самога Прэзідэнта. А гэта ўжо ні ў якія вароты не лезе. Але будзем спадзявацца, што паважаны Аляксандр Рыгоравіч разбярэцца са шклоўскімі “жабракамі” па ўсёй строгасці закона.

Сучасныя выклікі гавораць аб усё новых спосабах прысабечвання чужой маёмасці, асабліва чыноўнікамі, якія стаяць на перакрыжаванні фінансавых і таварных патокаў. Але ж для Беларусі ў цэлым мажлівы і зусім кепскі сцэнар – на фоне безвыніковнасці аграрнай палітыкі і неразумення перспектыў рынкавай эканомікі чыноўнікі паспрабуюць рознымі шляхамі прывабіць землю і асноўныя сродкі сельскагаспадарчай вытворчасці, якія зараз знаходзяцца ў распараджэнні дзяржавы. Відавочна, што гэта будзе рабіцца не на карысць дзяржавы, а зусім наадварот, што можа прывесці да катастрафічных наступстваў для радавых грамадзян. І мы ўсёй грамадой павінны стаць на шляху ліхвярства з боку цяперашняй улады, раскрываць даступнымі метадамі іх намаганні па вываду каштоўнасцяў у сваю карысць, крадзяжы, а то і крымінальныя дзеянні. І такім чынам, садзейнічаць росквіту Радзімы.

***Пётр МІГУРСКІ.***

# Дабіцца справядлівасці

**Пасля скаргі актывіста ў Міністэрства унутраных спраў хоціМскага міліцыянера прыцягнулі да адказнасці**

**Грамадскі актывіст з Хоцімска Валерый Каранкевіч атрымаў ліст з УУС Магілёўскага аблвыканкама аб выніках службовай праверкі, якая праводзілася супрацоўнікамі ўпраўлення пасля скаргі спадара Каранкевіча на імя міністра ўнутраных спраў.**

**У адказе, які падпісаў часова выконваючы абавязкі па пасадзе начальніка ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі УУС Магілёўскага аблвыканкама А.Петрусевіч, у прыватнасці, паведамляецца: *“За дапушчаныя парушэнні нормаў адміністрацыйнага заканадаўства, павярхоўны разгляд вашага звароту часова выконваючы па пасадзе абавязкі начальніка аддзялення аховы правапарадку і прафілактыкі Хоцімскага РАУС Курленкаў П. А. прыцягнуты да адказнасці. Першаму намесніку начальніка Хоцімскага РАУС Семачкіну Д. М. строга ўказана на адсутнасць належнага кантролю за працай падначаленых супрацоўнікаў, а таксама апошні папярэджаны, што ў выпадку паўтора падобных фактаў ён будзе прыцягнуты да адказнасці”.***

**Па словах Валерыя Каранкевіча, ён спадзяецца, што зараз супрацоўнікі Хоцімскага РАУС будуць больш уважліва адносіцца да скаргаў простых грамадзянаў.**

**“Безумоўна, для мяне нашмат большае задавальненне прынесла б, каб супрацоўнікі міліцыі проста знайшлі інтэрнэт-паклёпнікаў, а не іх прыцягненне да нейкай адказнасці”, - кажа Валерый Каранкевіч.**

**Нагадаем, што жыхар Хоцімска В.Каранкевіч 10 чэрвеня накіраваў скаргу на імя міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, у якой ён прасіў адмяніць пастанову начальніка Хоцімскага РАУС (ліст №ЕК-506 ад 16.04.2014 г.) і пастанову ад 23.05.2014 г. намесніка начальніка УУС Магілёўскага аблвыканкама (ліст № 19/К-33 от 23.05.2014 г.) аб спыненні справы аб адміністрацыйным правапарушэнні па яго заяве ў міліцыю.**

**Валерый Каранкевіч вымушаны быў звярнуцца да міністра з просьбай правесці расследванне, выявіць асобаў, якія дапусцілі абразы і паклёп на яго адрас, прыцягнуць іх да адказнасці згодна Закона і даць яму пісьмовы адказ у ўстаноўленыя законам тэрміны, бо супрацоўнікі Хоцімскага РАУС і Магілёўскага УУС не змаглі гэтага зрабіць і фактычна распісаліся ва ўласнай бездапаможнасці ў пошуках інтэрнэт-паклёпнікаў.**



В.Каранкевіч

**У адказе з міністэрства за подпісам часова выконваючага абавязкі па пасадзе начальніка Галоўнага ўпраўлення аховы правапарадка і прафілактыкі МГБ МУС А. Г. Каразея В.Каранкевічу паведамілі, што ў адпаведнасці з п. 1 ч. 1 арт.7.6 КоАП РБ у дадзены час скончыўся двухмесячны тэрмін для вынясення адміністрацыйнага пакарання, прадугледжанага арт. 9.3 (паклёп) КоАП, па факту распаўсюджання звестак, закранаючых яго гонар і годнасць, што з’яўляецца падставай для спынення адміністрацыйнай вытворчасці па справе.**

**Разам з тым, супрацоўнікі міністэрства паведамілі Валерыю Каранкевічу, што супрацоўнікі Хоцімскага РАУС і УУС Магілёўскага аблвыканкама дапусцілі асобныя парушэнні пры разглядзе яго скаргаў. Па выніках дадзенай праверкі прынята рашэнне аб правядзенні службовай праверкі, і кіраўніцтву УУС указана на неабходнасць больш якаснага кантроля за арганізацыяй адміністратыўнага працэса. Спадара Каранкевіча паабяцалі дадаткова праінфармаваць аб выніках службовай праверкі.**

**Нагадаем, што напярэдадні выбараў у мясцовыя Саветы на інтэрнэт-рэсурсе voskresinfo.com рэгулярна пачалі з’яўляцца публікацыі паклёпніцкага зместу пра цэлы шэраг дэмакратычных актывістаў і незалежных кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў Магілёўскай вобласці.**

***Іван БАРЫСАЎ.***

# Рыгор Кастусёў: Самы час палепшыць стасункі з Захадам

Днямі з двухдзённым рабочым візітам Беларусь наведаў міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус. Аляксандр Лукашэнка заяўляе, што “Еўразвяз ды і ЗША, можа быць, скрозь зубы, але пачынаюць размаўляць з Беларуссю”. Ці зрабілі беларускія ўлады прарыў на заходнім фронце? Пра гэта распавядае былы кандыдат у прэзідэнты **Рыгор Кастусёў**.



**Рыгор Кастусёў:** *Мне падаецца, падзеі апошніх дзён паказваюць, што Еўропа вырашыла аднавіць кантакты з афіцыйным Менскам. Ідуць нейкія перамовы, адбываюцца сустрэчы… Пытанне толькі ў тым, наколькі далёка ўсё гэта прасунецца і чым закончыцца.*

**РР: Можа гэта чарговая гульня беларускай улады з Захадам напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў?**

**Рыгор Кастусёў:** *Магчыма і так, хоць відавочна, што тут даюць адбітак украінскія падзеі, якія паказалі, што для Беларусі існуе рэальная пагроза. На мой погляд, беларускія ўлады зараз вагаюцца і ламаюць галаву над пытаннем: выводзіць стасункі з Еўропай на новы ўзровень ці заставацца на старым? Што лепей? Расея ж ужо паказала, як яна распраўляецца з тымі, хто марыць аб еўрапейскіх каштоўнасцях. Так што ў гэтым плане афіцыйнаму Менску іноў даводзіцца балансаваць.*

**РР: Ці мае Еўропа ў адносінах да Беларусі нейкія пэўна азначаныя мэты і моцную палітыку?**

**Рыгор Кастусёў:** *На жаль, пакуль што такіх мэтаў я не бачу. Бруселю трэба змяняць сваю пазіцыю, рабіць яе яскрава акрэсленую.*

**РР: Ці можна сёння правесці паралелі паміж сітуацыяй 2009 году, калі таксама было пацяпленне ў стасунках з Захадам?**

**Рыгор Кастусёў:** *Пакуль такіх паралеляў я б не праводзіў, таму што ўзровень адносінаў пяць гадоў таму быў зусім іншы. Хоць і ёсць некаторыя падобныя моманты. Але не думаю, што гісторыя паўтараецца па старому сцэнарыю. Праўда, тое, што стасункі з Еўропай наладжваюцца – вельмі добра. Паўтаруся, пагроза страты незалежнасці павялічваецца з кожным днём. Трэба рабіць усе захады, каб гэтая пагроза зменшылася альбо цалкам ліквідавалася.*

**РР: Ці будзе Крэмль перашкаджаць пацяпленню беларуска-еўрапейскіх стасункаў?**

**Рыгор Кастусёў:** *Ён ужо перашкаджае, але з-за падзеяў ва Украіне Расеі пакуль не да Лукашэнкі. Ды і з кансалідаванай Еўропай Пуціну зараз складана змагацца. Таму Беларусі самы час палепшыць адносіны з Захадам.*

*Беларускае Радыё Рацыя*



# КГК: Искоренить приписки на селе

***Комитет государственного контроля Беларуси намерен искоренить практику приписок на селе. Об этом заявил журналистам председатель комитета Александр Якобсон, который посетил с рабочей поездкой Чаусский и Славгородский районы.***

*"Мы предпринимаем самые решительные меры, чтобы искоренить это негативное явление раз и навсегда,* - сказал он. - *Пока мы действуем больше упреждающе, профилактическими мерами, и акцентируем внимание всех руководителей хозяйств на эффективную работу, зарабатывание денег на развитие хозяйств. Мы и сегодня объясняли руководителям хозяйств, что приписки ничего не дают, кроме проблем. От того, что ты приписал на бумаге, денег не появится, и легче жить никому в хозяйстве не станет. Перед начальством, может быть, ты какое-то время покрасуешься, а потом все равно все вылезет наружу и будет еще хуже".*



По словам Александра Якобсона, когда упреждающие меры люди не воспринимают, принимаются меры более суровые. В частности, материалы о некоторых нарушениях, выявленных во время проверки хозяйств Чаусского и Славгородского районов, переданы в правоохранительные органы. *БелТА*

# Як нас абдзіраюць



Кожнаму з нас іншы раз, а то і часцяком хочацца салёненькага. Ну,напрыклад, таго ж самага селядца. Ды яшчэ з бульбачкай. Паранай. Ды нарэзаць гэтага селядца лустачкамі ў талерачку. Ды прысыпаць гэтыя лустачкі зверху цыбулькай, парэзанай долькамі. Ну, а калі на ўсё гэта не пашкадаваць яшчэ сланечнікавага алею … Што, слінка пацякла?...

Тым болей, нам неабходна ўжываць морапрадукты таму, што мы жывем у радыяцыйнай зоне.

Але я заўважыў, што апошнім часам добрага сялядца па даступнаму кошту чалавеку радавога рангу прыдбаць немагчыма. Не, вітрыны спецыялізаваных крам заваленыя тым самым марскім багаццем, але ж туды пенсіянеру ці звычайнаму рабочаму, а тым больш селяніну, і нос нечага суваць. Для таго, каб прыдбаць штосці “съедобное”, у гэтыя гандлёвыя кропкі трэба ісці з вельмі тоўсты партаманетам. Раней прыдбаеш таго самага селядца за савецкія недзе паўтара рубля ці адзін рубель і 60 капеяк за кіло (пры мінімалцы 60 рэ) і пальчыкі, што называецца, абліжаш. Зараз жа, асабліва летам, заімееш “одну плавающую особь” для дэгустацыі, патраціш на яе яшчэ іншыя прадукты (алей, воцат, цыбулька) ды думаеш, як жа гэта яе “даканаць”?! Хутчэй здараецца, што “вылаўленую” рыбку выкідваеш, бо ўжываць яе нават прыпраўленую немагчыма: жосткая, салёная і ўвогуле…

Але ж рыбкі хочацца. Ды марской. Захожу неяк у “Перекрёсток”. Бачу, кілька ў баначцы стаіць. Ды ў расолі. На выгляд прыгожая такая. Адразу асацыяцыя: “пряного посола”!!! Ну, думаю, адвяду сваю грэшную душу. Купляю з “закрытымі вачыма”, гэта значыць, нягледзячы на этыкетку. Я ж ня думаў, што ў нашай еўрапейскай Беларусі, у якой цывілізацыі больш, чым у той Францыі (так казаў сам прэзідэнт маёй краіны), могуць мне “ўцюхаць” няякасны прадукт.Карацей, прыходжу дадому, уздымаю крышачку пластыкавай ёмістасці, падобнай на вядзерца. Кладу адну рыбку ў рот, спрабуючы на смак тое, што я купіў. А ў роце… гарыць, агонь пылае. Хоць пажарнікаў выклікай. Рыбка гэтая яшчэ больш салёная, чым сама соль. Нават пасля двух прамывак у вадзе эфекту аніякага…

Стаў разглядаць, што ж гэта я прыдбаў і чыёй вытворчасці. Аказваецца, прадукцыя гэтая мясцовага вырабу (як гэта я па смаку не здагадаўся?). Вырабляе гэткі “дэлікатэс” ніхто іншы, як раённае спажывецкае таварыства (РСТ). Па-расейскі – проста і больш зразумела - Райпо. Дык што ж вы робіце, спадары-таварышы? Атручваеце народ ды яшчэ і грошы з яго за гэта здзіраеце. Гэта ж вар’яцтва! І дзе гэта нашы службы кантролю. Дзе тыя самыя дзяржстандарты? Мне тлумачуць, маўляў, лета, хутка прадукт псуецца. А мне якая да гэтага справа? Вы павінны выпускаць якасны тавар. Між іншым, на этыкетцы напісана, што *“Килька балтийская среднесолёная, 1 сорт”.* Дзе ж яна “среднесолёная”, калі яе ў рот нельга пакласці? І хто вызначыў, што прадукт першага гатунку? У ім увогуле няма ніякага гатунку, бо нават браты нашы меншыя ня хочуць гэта есці. Пысы свае адварочваюць.



І як гэтыя дзеянні нашых, так бы мовіць, вытворцаў можна кваліфікаваць? Грабежніцтва сярод белага дня? Народ плоціць свае грошыкі з надзеяй атрымаць якасны прадукт, а яму падсоўваюць “коціка ў мяшэчку”. Гэта ж натуральнае махлярства. Прытым , беспакаранае…

Калі мы купляем абутак альбо вопратку, то можам тавар памацаць, прымерыць, і нават, калі дома на купленым тавары знойдзем дэфект, яго можна абмяняць ці вярнуць грошы. А ў дадзеным выпадку з励кількай як быць? У краме ўскрываць ёмістасць ды спрабаваць на смак ніхто табе не дазволіць. Вось на гэта і разлічваюць таварышы-вытворцы. І што пакупніку застаецца рабіць? Адно толькі: прынесці гэтую кільку на стол старшыні РСТ. Я на ўсялякі выпадак пакінуў у баначцы некалькі “весёлых ребят” (так раней называлі гэтую самую кільку). Мо спатрэбяцца.

**Сямён ПАНІЗОЎЦАЎ.**



# Новый роман Сергея Антонова

**Новый роман быховчанина Сергея Антонова в серии «Вселенная Метро 2033» выпущен издательством АСТ**

***Российское издательство АСТ выпустило продолжение новой трилогии быховского автора Сергея Антонова «Рублёвка».***




Роман *«Рублёвка - 2. Остров блаженных»* о злоключениях жителей элитных поселков выходит в серии «Вселенная Метро 2033». Продажи книги начнутся в августе.

Чуть ранее стартовали продажи трилогии С. Антонова под общим названием «Московские туннели». В издание вошли романы «Темные туннели», «В интересах революции» и «Непогребенные», ранее выходившие отдельными книгами . Их суммарный тираж превысил 350 000 экземпляров. Книга «Темные туннели» была переведена на немецкий язык, ее тираж меньше чем за полгода разошелся в Германии. Вскоре роман будет издан в Южной Корее.



Сергей Антонов принимает деятельное участие в общественной жизни региона, активно занимается публицистической журналистикой. Является членом Партии БНФ.

*Д.Л.*

# Адусюль пакрыху

## Отовсюду понемногу

**Как сообщили в Главном статистическом управлении Могилевской области, в январе-мае текущего года убыточными были признаны 122 организации области, или 13,7% от общего количества организаций (за аналогичный период прошлого года – 82 организации или 9,2%). Сумма чистого убытка этих организаций составила 976,7 млрд. рублей (в 2,3 раза больше, чем за январь-май 2013 г.). Хуже всего сработала промышленность, на втором месте – гостиницы и рестораны, третье разделили строительство и транспорт.**

**Сотрудники Славгородского РОВД в рамках специальной программы «Мак» 22 июля около выселенной деревни Добрый Дуб на площади 0,5 га обнаружили 600 кг дикорастущей конопли, сообщили в отделении информации и общественных связей УВД облисполкома. Конопля уничтожена.**

**В результате проверки, проведенной КГК в июне 2014 года, 84 торговых объекта Могилевской области допустили реализацию продуктов с истекшими сроками годности (хранения). 23 из них с учетом 2013 года попались на подобном нарушении повторно. Больше всего подобных объектов в Могилеве – 36, в Глусском районе – 11, в Климовичах – 9, в Чаусах – 6, в Кировском и Славгородском районе по 5, в Бобруйске, г.п. Белыничи и Быховском районе по 3, в Шкловском районе – 2, в Горках и Кличеве по 1.**

**В первом полугодии число преступлений на Могилевщине увеличилось на 2,1%. Об этом сообщили на коллегии прокуратуры области, где подводились итоги работы за первое полугодие нынешнего года.**

**Как отметил прокурор области Александр Чадюк, этому имеется как объективные, так и субъективные причины. Например, определенное влияние на криминогенную ситуацию в области оказала активизация работы по пресечению, выявлению и расследованию преступлений в сфере незаконного оборота наркотических средств, психотропных веществ. Количество выявленных подобных преступлений увеличилось почти на 74% по сравнению с аналогичным прошлогодним периодом. В то же время сократилось число преступных посягательств, совершенных в состоянии алкогольного опьянения, лицами, имеющими судимость, и несовершеннолетними.**

**За полугодие произошло сокращение на 15% количества умышленных причинений гражданам тяжких телесных повреждений, на 27% — разбоев, на 19% — угонов автотранспорта, а также грабежей, краж, в том числе из жилищ.**

**В то же время отмечается незначительное увеличение числа убийств (+3), а также хулиганств, вымогательств, мошенничества, краж из автотранспорта.**

*Паводле http://mogilevnews.by*

Магілёўскі ВЫБАР

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 24.07.2014 г. у 10.00.